СОНЦА:
Усход, заход, даўжыня дня:
Мінск — 5.42, 20.45, 15.03;
Віцебск — 5.28, 20.40, 15.12;
Магілёў — 5.32, 20.35, 15.03;
Гомель — 5.36, 20.25, 14.49;
Гродна — 6.00, 20.58, 14.58;
Брэст — 6.04, 20.55, 14.51.

МЕСЯЦ:
Поўня 13 жніўня.

ІМЯНІНЫ:
Еўдакіма, Юліты;
Дзіяны, Іпаліта

# ЗВЯЗДА

13 ЖНІЎНЯ 1992 г.
чацвер, № 160 (21938)

● выдаецца са жніўня 1917 г. ● БЕЛАРУСКАЯ ГАЗЕТА ● цана 1 рубель

## РОЗГАЛАС

### ХЛЕБ ДЛЯ РЭСПУБЛІКІ

Першы батальён накіраваны ў Кустанайскую вобласць для аказання Казахстану дапамогі ва ўборцы збожжа. Недалёкі і той дзень, калі на цаліну накіруецца другі батальён.

Такім чынам, уступіла ў дзеянне пагадненне, заключанае паміж Беларуссю і Казахстанам, які абавязаўся прадаць нашай рэспубліцы 2 мільёны тон збожжа па 10 тысяч рублёў за тону. Са свайго боку Беларусь выконвае абавязацельствы ў дапамозе людзьмі і тэхнікай.

**Аляксандр МАКАРАЎ.**

## ДЫПЛАМАТЫЧНЫ ВЕСНІК

12 жніўня ўстаноўлены дыпламатычныя адносіны паміж Рэспублікай Беларусь і Рэспублікай Сінгапур шляхам абмену нотамі паміж міністэрствамі замежных спраў дзвюх дзяржаў.

Колькасць дзяржаў, з якімі Беларусь цяпер мае дыпламатычныя адносіны, дасягнула такім чынам 58.

**МЗС Беларусі.**

Конь здаўна лічыўся самай
прыгожай жывёлінай.
І нельга было ўявіць без яго
вёску. Але ў часы
«развітога сацыялізму»
мы ледзь не знішчылі гэтых
прыгажуноў.

Цяпер жа без каня
ў вёсцы нам не выжыць,
так лічыць старшыня калгаса
«Палітаддзелец» Лепельскага
раёна Іван Міхайлавіч Пазняк.
І ў гаспадарцы завялі
93 коней. Аб карысці
гэтых жывёлін гаварыць
не прыходзіцца,
тут лічаць: што карысна,
тое і выгадна,
і таму трымаюць такі
вялікі статак.

**Алесь КУШНЕР.**

НА ЗДЫМКАХ:
калгасны конюх Леанід Рыгоравіч ЖАРНАСЕК;
коні-прыгажуны.

## І зноў — жыццё ў крэдыт?

**Пазаўчора ў міністра фінансаў рэспублікі С. Янчука, з удзелам першага намесніка старшыні Нацыянальнага банка Беларусі М. Кузьміча, адбылася прэс-канферэнцыя для журналістаў, прысвечаная пытанням плацяжоў, узаемаразлікаў паміж прадпрыемствамі. Пры гэтым асноўная гутарка ішла аб узаемаразліках паміж прадпрыемствамі Расіі і Беларусі і аб адпаведным, заключаным нядаўна паміж банкамі абедзвюх рэспублік пагадненні. Наша газета пісала ўжо на гэтую тэму (гл. учарашні нумар), абмяжуемся некаторымі дэталямі.**

Нагадаю спачатку: неплацяжы прадпрыемстваў, якія дасягнулі свайго апагею ў чэрвені, амаль дабілі нашу эканоміку. Неабавязковасць партнёраў унутры рэспублікі, а найбольш — з бліжэйшага замежжа стала проста надзвычайнай. Паставіць прадукцыю і атрымаць у адказ вялікі кукіш — гэтага можна было чакаць амаль на кожным кроку. Зрэшты, варта яшчэ раз адзначыць, што нярэдка існавалі аб'ектыўныя прычыны неплацяжоў, а галоўная з іх, на наш погляд, таілася ў раз'яднанасці фінансавых структур, што дзейнічаюць у так званай адзінай рублёвай зоне, няўзгодненасць і нават супярэчлівасць у дзеяннях банкаў, якія скарыстоўвалі смутны момант і найперш імкнуліся напампаваць у сваю эканоміку крэдытную эмісію. Вядома, за кошт іншых. Пры такой сітуацыі разбураліся і без таго нетрывалыя эканамічныя сувязі. Атрымаў развіццё «мяшочны» метад аплаты за прадукцыю, г. зн. грошы — адразу ж на бочку, толькі наяўнымі. Пры такой сітуацыі не было чаго і думаць пра ўздым эканомікі. Сітуацыя была ўпушчана з самага пачатку, калі першага ж банкрута патрабавалася аб'явіць банкрутам. І зрабіць усё адпаведнае адносна яго, як робіцца ў іншых краінах.

Аднак што канкрэтна прагучала на прэс-канферэнцыі? Найперш — адносна разлікаў паміж прадпрыемствамі ў рэспубліцы. Паміж імі быў зроблены ўзаемазалік, тым, каму не хапіла сродкаў, выдзелілі крэдыты. Па традыцыі. Прычым крэдытаў набралася на вельмі і вельмі круглую суму. Спакойна, грамадзяне, — міністр фінансаў назваў 56 мільярдаў рублёў. Прычым частку працэнтаў за карыстанне крэдытамі павінен аплаціць бюджэт. (Нялішне засвоіць, хто яшчэ не засвоіў: яго напаўняем усе мы разам). Дарэчы, міністру было зададзена пытанне: а як наконт вяртання крэдытаў? Ці ўсё будзе, як «да таго», г. зн. спішуцца? Міністр адразу катэгарычна запярэчыў наконт спісання, а потым падумаў і ўдакладніў, што, магчыма, часткова і спішуцца. І, думаецца, вельмі правільна зрабіў, калі не настойваў на першапачатковым выказванні, а падумаў.

Яшчэ на прэс-канферэнцыі адзначалася, што для нас бліжэй крэдытная палітыка новага галоўнага банкіра Расіі Герашчанкі, які змяніў нядаўна Мацюхіна (нагадаю: Герашчанка раней узначальваў Дзяржбанк СССР). Ён таксама збіраецца зрабіць шырокамаштабную фінансавую «падпітку» прадпрыемстваў Расіі. Вядома, калі мець на ўвазе інтарэсы Беларусі, то нашым прадпрыемствам лягчэй будзе пасля гэтага патрыбушыць сваіх расійскіх даўжнікоў, але будзем улічваць і нярадасную перспектыву непазбежнага ўзлёту пасля гэтага інфляцыі, якая тут жа ператворыць атрыманыя грошы ў пустыя паперкі. Напампоўванне грошай у экано-

(Заканчэнне на 3-й стар.).

## ТЭЛЕГРАМЫ Ў НУМАР

Сардэчна віншую супрацоўнікаў рэдакцыі, аўтарскі актыў і чытачоў «Звязды» з 75-годдзем з дня выхаду першага нумара газеты. Жадаю слыннаму калектыву старэйшай нацыянальнай газеты і надалей плённа працаваць на ніве адраджэння нашай Бацькаўшчыны, годна прапагандаваць і абараняць роднае слова. Новых вам творчых поспехаў і набыткаў!

**Міністр інфармацыі Анатоль БУТЭВІЧ.**

***

Сардэчна віншуем калектыў нашай любімай газеты з 75-годдзем. Жадаем вашаму выданню надалей заставацца такім жа папулярным, інфармацыйна насычаным, аб'ектыўным. Спадзяёмся, заўсёды будзем знаёміцца на старонках вашай газеты з матэрыяламі, якія адлюстроўваюць пытанні беларускай гісторыі.

**Ад імя архівістаў Беларусі — начальнік Галоўархіва Аляксандр МІХАЛЬЧАНКА.**

## Вячаслаў КУЗНЯЦОЎ: «БЕЛАРУСЬ ЗАЦІКАЎЛЕНА Ў РАСШЫРЭННІ СУПРАЦОЎНІЦТВА»

Аб перспектывах умацавання і развіцця эканамічнага супрацоўніцтва ішла размова на сустрэчы першага намесніка Старшыні Вярхоўнага Савета Беларусі Вячаслава Кузняцова з прэзідэнтам турэцкай фірмы «Энка», якая ўдзельнічае ў будаўніцтве жылля ў Слоніме для ваеннаслужачых, што выводзяцца з Германіі, Шарыкам Тара і ўладальнікам буйнейшай у Турцыі прамыслова-гандлёвай групы «Коч» Вехбі Кочам.

Група «Коч» выпускае аўтамабілі, электраабсталяванне, вырабляе тэкстыль, тавары працяглага карыстання, мае буйныя фінансавыя ўкладанні ў гандлёвы і турысцкі бізнес. Яе гадавы абарот — 9 мільярдаў долараў. Эксперты гэтай фірмы маюць намер дэталёва вывучыць сітуацыю ў Беларусі з мэтай арганізацыі ўзаемавыгаднага для абедзвюх дзяржаў супрацоўніцтва. Як заявіў Вехбі Коч, ён лічыць, што Беларусь — найбольш стабільная дзяржава СНД і самы надзейны эканамічны партнёр Садружнасці.

Прэзідэнт «Энкі», якая ў гэтым годзе заканчвае будаўніцтва і здае «пад ключ» жылы комплекс на 1.455 кватэр з усёй неабходнай інфраструктурай агульным коштам больш за 200 мільёнаў нямецкіх марак, выказаў сваё глыбокае задавальненне такім супрацоўніцтвам, якасцю і тэмпамі работы беларускіх партнёраў-будаўнікоў.

Зацікаўленасць беларускага боку ў расшырэнні супрацоўніцтва пацвердзіў Вячаслаў Кузняцоў. Ён адзначыў, што ў рэспубліцы прыняты неабходныя законы для развіцця знешнеэканамічнай дзейнасці. Яны сарыентаваны на стварэнне льготных умоў для прадпрымальнікаў, якія вырабляюць прадукцыю, што цікавіць жыхароў рэспублікі. І ў параўнанні з аналагічнымі законамі іншых краін СНД у Беларусі для замежных інвестараў гэтыя ўмовы найбольш выгадныя. Магчымасці для замежных інвестараў у рэспубліцы практычна не абмежаваны, падкрэсліў Вячаслаў Кузняцоў.

**А. КРЫЖАНОЎСКІ. (БЕЛІНФАРМ).**

## РАДЫЁФАКТ

Падпісаны загад міністра абароны Рэспублікі Беларусь аб забароне дзейнасці палітычных партый, грамадска-палітычных рухаў ва Узброеных Сілах. Забаронены таксама ўдзел ваеннаслужачых у рабоце палітычна арыентаваных структур у службовы час.

***

**У Міністэрстве юстыцыі рэспублікі пад нумарам 398 зарэгістравана новая грамадская арганізацыя — «Беларускі рэспубліканскі фонд падтрымкі дэмакратычных рэформ». Мэта яго — паслядоўнае ўсталяванне і развіццё дэмакратычных рэформ у Рэспубліцы Беларусь у галінах мясцовага самакіравання, эканомікі, навукі, культуры, экалогіі, прапаганда ідэй дэмакратыі і павагі да правоў чалавека.**

***

Пасольствы Японіі адкрыюцца хутка ў чатырох рэспубліках былога СССР — у Беларусі, Казахстане, Узбекістане і на Украіне. Рашэнне аб гэтым прынята міністэрствам замежных спраў краіны, паведамляе газета «Іаміуры».

***

**200 назіральнікаў з 13 міжнародных арганізацый розных краін будуць прысутнічаць на парламенцкіх выбарах у Грузіі 11 кастрычніка. Знаходжанне назіральнікаў будзе фінансавацца самімі арганізацыямі.**

***

Штурмам узяты будынак самарскай абласной адміністрацыі. Зараз там гаспадараць уладальнікі мэтавых чэкаў на легкавыя аўтамабілі, якія прыехалі з Поўначы і Далёкага Усходу. Усе яны прыехалі ў Самару па тэлеграмах з аўтамагазінаў, што запрашалі атрымаць аўтамабілі, аплачаныя яшчэ ў мінулым годзе. У магазінах машын не аказалася. Па словах адной з удзельніц гэтай акцыі, «майстра цэха аб'яднання «Якутзолата» Таццяны Стораж: мы патрабуем толькі аддаць сумленна заробленае».

***

**10 мільярдаў рублёў патрабуецца пры цяперашніх цэнах на аднаўленне храма Хрыста Выратавальніка ў Маскве. Толькі золата на купалы павінна пайсці як мінімум 420 кілаграмаў.**

***

Вядомы акцёр Леў Дураў пачаў здымацца ў фільме Юрыя Кары «Майстар і Маргарыта». Ён будзе іграць ролю Левія Матвея і 17 верасня ад'язджае на два тыдні ў Ізраіль на натурныя здымкі.

УРАДЖАЙ-92

## Яго вялікасць ураджай пустазвонства не прымае—

**такі лейтматыў гутаркі карэспандэнта «Звязды» з намеснікам міністра сельскай гаспадаркі і прадуктаў харчавання Аляксандрам СТАРАВОЙТАВЫМ.**

**— Вы толькі што вярнуліся з камандзіроўкі па Віцебшчыне. Што «чуваць» на палях? Які настрой у людзей?**

— Наша выязная брыгада пабывала ў Пастаўскім, Талачынскім, Глыбоцкім раёнах. Страшнае відовішча. Вельмі пацярпелі ад засухі ячмень, авёс, лён, пад страшэннай пагрозай другі ўкос траў, жывёлаводы вымушаны адкрываць траншэі з кармамі, якія назапашаны на стойлавы перыяд... Адно суцяшае: людзі ўпарта пераадольваюць цяжкасці, працуюць самаададна. Усе разумеюць: летні дзень — год корміць. Бяда аб'ядноўвае, згуртоўвае.

**— Ці задавальняюць вас тэмпы жніва?**

— Безумоўна, хацелася б як мага хутчэй убраць вырашчаны ўраджай. Спадзяванні на пышны каравай былі неблагія. Калгасы і саўгасы адсеяліся ў аптымальныя тэрміны, расліны добра пайшлі ў рост. Яшчэ ў канцы мая мы ацэньвалі ўраджайнасць збожжавых у 29—31 цэнтнер з гектара. Падлікі паказалі: выйдзем на валавы збор зерня ў 8 мільёнаў тон. Але... Зноў усё пераблытала «нябесная канцылярыя». У чэрвені і за першую дэкаду ліпеня выпала ападкаў усяго 10—30 працэнтаў сярэдняй нормы. Працяглая засуха павярнулася вялікім недаборам ураджаю. Паводле прагнозаў спецыялістаў, валавы збор збожжа складзе каля 6 мільёнаў тон супраць 7 — у мінулым годзе.

Тэмпы жніва могуць і павінны быць шпарчэйшымі — сухое надвор'е дазваляе. У цэлым па рэспубліцы збожжавыя скошаны амаль на 80 працэнтах плошчаў. У гаспадарках Брэсцкай, Гродзенскай і Гомельскай абласцей жніво блізіцца да завяршэння. Найбольш паспяхова ідуць справы ў Лунінецкім, Столінскім, Карэліцкім, Брэсцкім, Жабінкаўскім, Калінкавіцкім, Мазырскім, Гомельскім, Слонімскім, Нясвіжскім і іншых раёнах. Радуе, што і збожжавых тут намалочваюць па 30—34 цэнтнеры з гектара. У аснове поспеху ляжыць добра арганізаваная праца ўсіх удзельнікаў жніва, высокапрадукцыйнае выкарыстанне ўборачнай тэхнікі, сушыльнай гаспадаркі. Дзённыя прыросты ўбраных плошчаў тут складаюць 7—8 і больш працэнтаў.

**— А хто, як мы іншы раз пішам, пляцецца ў хвасце?**

— Шмат каласавых стаіць яшчэ на корані ў гаспадарках Віцебскага, Гарадоцкага, Дубровенскага, Аршанскага, Талачынскага, Шклоўскага, Мсціслаўскага, Круглянскага раёнаў. Вядома, ёсць тут і свае аб'ектыўныя прычыны адставання, не на ўсіх участках вільготнасць зерня дазваляе сёння весці ўборку прамым камбайнаваннем. Але хіба ў гэтых і некаторых іншых раёнах цяпер у поўнай меры выкарыстоўваюцца ўсе наяўныя магчымасці ўборкі? Вядома ж, не. Час прыспешвае. Страты ўраджаю непазбежныя.

Складанае становішча сёлета склалася з нарыхтоўкай піваварнага ячменю. Улічваючы гэта, урад рэспублікі дазволіў яго нарыхтоўку з наступнымі адхіленнямі ад дзеючага стандарту: буйнасць — не менш чым 30 працэнтаў, утрыманне дробнага зерня — не больш за 15 працэнтаў, утрыманне бялку — не больш як 14 працэнтаў. Нарыхтоўка такога ячменю вядзецца па цэнах са скідкай 10 працэнтаў.

**— Першым укосам намячалася ўбраць 2.157 тысяч гектараў сеяных шматгадовых і натуральных траў, закласці 6.273 тысячы тон кармавых адзінак, па 14,4 цэнтнера ў разліку на ўмоўную галаву жывёлы...**

— На вялікі жаль, і тут ёсць нямала хібаў рознага характару. Недабор кармоў з першага ўкосу склаў 196 тысяч тон кармавых адзінак. На другі паўнацэнны ўкос няма чаго разлічваць. Пад пагрозай аказаўся гадавы план назапашвання травяністых кармоў.

Нарыхтоўшчыкам фуражу трэба вырашыць найскладанейшую задачу: нарыхтаваць яшчэ 2.960 тысяч тон кармавых адзінак травяністых кармоў. Ці ёсць для гэтага магчымасці? Абстаноўка экстрэмальная. І ўсё-такі нявыкарыстаныя рэзервы ёсць. Неабходна якасна убраць усе травы на пойменных лугах. Яны займаюць 93 тысячы гектараў. Ні на хвіліну не варта забываць пра нарыхтоўку кармоў з нясельскагаспадарчых угоддзяў. Канешне, нялёгка ўзяць зялёную масу на балотах, лясных палянах, абочынах дарог і г. д. Але ж іншага выйсця няма.

**— Шмат саломы ляжыць яшчэ на палетках...**

— Праблем тут таксама нямала—дэфіцыт тэхнікі, якая занята на іншых работах, не хапае прэсаў для цюкавання і... шпагату. Ён вельмі дарагі, не кожная гаспадарка ў стане купіць патрэбную колькасць. І тым не менш неабходна знаходзіць магчымасць для паўсюднай уборкі саломы з палёў. Сёння, як ніколі раней, важна своечасова і без страт убраць салому і мякіну. Адзін з лепшых варыянтаў іх выкарыстання—назапашванне сіласу з дабаўленнем зялёнай масы. Прыгоднае для гэтай мэты і бацвінне караняплодаў. Гэта дазволіць хаця б у нейкай ступені кампенсаваць недабор кармоў першага ўкосу і наблізіць запасы да леташняга ўзроўню. Ніхто не павінен цешыць сябе ілюзіяй, што нехта выдзеліць кармы з дзяржаўных фондаў. Спадзявацца трэба толькі на ўласныя рэзервы і магчымасці.

**— Мінаюць аптымальныя тэрміны сяўбы азімага рапсу...**

— Сёлета пад рапс мяркуем адвесці 70 тысяч гектараў. Вытворчасць дэфіцытнага алею вымушае пайсці на расшырэнне пасяўных плошчаў. Па меры вызвалення палёў ад папярэднікаў трэба паўсюдна прыспешваць гэтую неадкладную работу. Больш чым на 1—1,5 тыдня раней пачатая ўборка збожжавых культур дае магчымасць лепш падрыхтаваць і запраўіць глебу ўгнаеннямі, прыкметна павялічыць азімы палетак рэспублікі. Гэту магчымасць варта выкарыстаць спаўна.

**— Аляксандр Міхайлавіч, некалькі слоў пра наш «другі хлеб».**

— Бульбяныя плантацыі з улікам прысядзібных і дачных участкаў займаюць сёлета 600 тысяч гектараў. Віды на ўраджай сумныя. Ранняя бульба з тых плошчаў, якія ўжо выкапаны, дала ў сярэднім па 100 цэнтнераў клубняў з гектара. Не густа! Пад вялікім пытаннем ураджайнасць сярэдніх і позніх сартоў.

**Гутарыў Алесь БЯРЖЫНСКІ.**

ШКОЛА ГАСПАДАРАННЯ

## У «запрэжцы»—вецер перамен

**Дзіўная справа: вакол толькі і чуеш — рынак бярэ за горла, рынак душыць... А ў Буда-Кашалёўскім раённым вытворчым інжынерным аб'яднанні колькасць працуючых не скарацілася, як на большасці прадпрыемстваў, а ўзрасла ажно на 430 чалавек і зараз складае больш за 800. Можа, гэта якая камерцыйная фірма, малое або сумеснае прадпрыемства! Ды не, самая сапраўдная дзяржаўная арганізацыя, якую ўсюды па ранейшаму называюць райаграпрамтэхнікай.**

— Як калектыву ўдалося злавіць спадарожны вецер?—з такога пытання пачалася наша гутарка з тэхнічным дырэктарам аб'яднання А. Заранкіным.

Андрэй Мікалаевіч адказаў на пытанне пытаннем:

— А чаму вы думаеце, што вецер спадарожны? Ён аднолькавы для ўсіх. Толькі мы здолелі «запрэгчы» яго. Не ведаем, праўда, на які час. Бо ён вельмі каварны, і калі памылішся, прымаючы рашэнне, дык човен, у якім мы плывём, можа сесці на мель.

Такі паварот падзей (зусім магчымы) у райаграпрамтэхніцы прадбачылі яшчэ некалькі гадоў назад, калі стала ясна, што ў барацьбе «за месца пад сонцам» яна можа не вытрымаць канкурэнцыі.

Райаграпрамтэхніка займалася рамонтам трактароў, рухавікоў, вузлоў і агрэгатаў да іх, збожжаўборачных і кормаўборачных камбайнаў. У яе распараджэнні мелася 120 грузавых аўтамабіляў, станцыя тэхнічнага абслугоўвання энерганасычаных трактароў, перасовачная механізаваная калона, якая абслугоўвала жывёлагадоўчыя памяшканні, рамонтна-будаўнічы ўчастак. За год калектыў выконваў розных работ на суму 4,5 мільёна рублёў.

...І нечакана ў дзверы пастукаўся рынак. Магілёўскі маторарамонтны завод павялічыў свае вытворчыя магутнасці, рамонт каробкі перадач трактароў узяў на сябе завод у Прыямным, што на Віцебшчыне. Такім чынам, аб'ём рамонту ў Буда-Кашалёве рэзка скараціўся. А тут яшчэ адзін сюрпрыз: у сувязі з павелічэннем цэн многія гаспадаркі раёна пачалі адмаўляцца ад паслуг рамонтнікаў.

Перад арганізацыяй у поўны рост паўстаў выбар: альбо пакласці зубы на паліцу, альбо шукаць новую справу.

Не будзем удавацца ва ўсе перыпетыі, зазначым наступнае: кіраўніку райаграпрамтэхнікі М. Зянкевічу (а зараз генеральнаму дырэктару аб'яднання) ўдалося «намацаць» сцяжынку ў тумане пераходу да рынку. У рэспубліцы існавала «невырашальная» праблема: востра не хапала коркаў для бутэлек пад шампанскае і віно, накрывак для слоікаў пад маянэз і гарчыцу, палімерных скрынак для бутэлек. Мінсельгасхарч рэспублікі меў фонды на сыравіну для гэтай прадукцыі, але ў яго адсутнічала база для яе выпуску. Кіраўнікі міністэрства далі Міхаілу Іосіфавічу зразумець, што калі яго арганізацыя возьмецца за гэту справу, то ёй самой давядзецца шукаць неабходную тэхніку, станкі, механізмы, перавучваць людзей.

Прамаруджанне, здаўна вядома, смерці падобнае. Таму ва ўсе канцы краіны (СССР тады быў яшчэ адзіным) паляцелі і паехалі ганцы райаграпрамтэхнікі, пачаліся перападрыхтоўка кадраў, рэканструкцыя вытворчасці, дзе выслабаняліся плошчы для замены адной тэхнікі на іншую.

На прадпрыемстве ўздыхнулі больш вольна, калі набылі тры тэрмапластаўтаматы, якія могуць перапрацаваць за год 4,5 тысячы тон сыравіны. Палімерныя гранулы тут атрымліваюць з Наваполацка і Казані; услед за прадукцыяй, пра якую мы ўпамянулі вышэй, пачалі асвойваць і выраб поліэтыленавай плёнкі.

— Сёлета, — гаворыць А. Заранкін, — мы мяркуем вырабіць тавараў на 250 мільёнаў рублёў. Асноўная прадукцыя, як бачыце, — вырабы з палімераў. Але ж мы вырабляем прадукцыю і з жалезабетону — блокі, панелі, агароджы.

Рынак ёсць рынак. У ім выжывае больш моцны і знаходлівы. Дык вось бачачы, што кліентура аб'яднання часта не можа разлічыцца з ім, тут своечасова паклапаціліся, каб прадпрыемства мела грошы. Менавіта для гэтага прапанавалі гандлю тавары народнага спажывання — тую ж самую плёнку, пашырылі вытворчасць новых відаў вырабаў. Якім чынам? Заробленыя грошы пусцілі ў абарот, у мясцовай прамысловасці выкупілі цагельны завод, а ў гомельскага аб'яднання «Карал» — участак па выпрабу свяцільнікаў і бра. З'явіліся новыя грошы — і іх у справу.

Што ні кажы, а людзі ў Буда-Кашалёве — з выдумкай. Вось вам яшчэ ідэя — у недалёкім будучым інжынернае аб'яднанне мае намер вырабляць... каўбасы.

Аказваецца, аб'яднанне выкупіла ў аднаго з калгасаў 1.200 гектараў ворнай зямлі і 700 галоў жывёлы, заплаціўшы за ўсё пяць мільёнаў рублёў. І вось зараз тут ствараецца вялікая збожжагаспадарка, майстэрня, будзе ўзведзены свінарнік. Адным словам, грошы робяць грошы...

Прызнаем: калектыў аб'яднання сапраўды «круціцца». Сфера яго дзейнасці цяпер — ад Сібіры да Заходняй Еўропы. Яго работнікі паспяхова выходзілі на сувязі з чэхамі і балгарамі, а зараз кантактуюць з немцамі і пракладваюць дарогу да італьянцаў. Хто там далей за гарызонтам?

**Уладзімір ПЕРНІКАЎ.**

## Эканоміка не церпіць мітусні, але і прамаруджвання не дарує

Ад жорсткага і нават безапеляцыйнага «зняць з займаемай пасады» да лаяльнага «давайце ж будзем рэалістамі» — такі дыяпазон эмацыянальных ацэнак выклікала абмеркаванне першага пытання з парадку дня чарговага пасяджэння Прэзідыума Савета Міністраў Рэспублікі, якое адбылося пад старшынствам Міхаіла Мясніковіча 11 жніўня.

Размова ішла аб адказнасці службовых асоб за нездавальняючае выкананне рабочага плана па рэалізацыі асноўных напрамкаў палітыкі ўрада па прадухіленню спаду вытворчасці і фарміраванню ўмоў выхаду з крызісу. Ёсць праграма, ёсць канкрэтны, распісаны па месяцах і з указаннем канкрэтных выканаўцаў план дзеянняў, і нават ёсць самі дзеянні, а выніку няма. У ліпені спад вытворчасці ў параўнанні з тым жа месяцам мінулага года склаў 22 працэнты. Да 48 працэнтаў наблізіўся дэфіцыт бюджэту.

Паводле ацэнак справаздачы, якую зрабіў першы намеснік старшыні Дзяржэканомплана рэспублікі Рыгор Вячорка, не выкананы 4 з 61 пункта плана, 8 — перанесены на больш позні тэрмін. Старшынствуючы, аднак, з такой статыстыкай не згадзіўся, назваў значна больш нерэалізаваных або не працуючых на мэту задач практычна з усіх раздзелаў дакумента. У маі, напрыклад, планавалася знайсці спосаб адрэгуляваць да парытэту цэны на прадукцыю АПК і прамысловую прадукцыю, што пастаўляецца яму. Рэчаіснасць жа такая, што Мінфін, адзін з адказных за выкананне гэтага задання, і да гэтага часу штомесяц шукае сродкі на датацыі вёсцы. Няясная сітуацыя са стварэннем небюджэтных фондаў для фінансавання часткі рэспубліканскіх навуковых праграм, якая павінна была праясніцца ў чэрвені. Не адабраны з іх найбольш актуальныя. Мы па-ранейшаму не гатовы да зусім рэальнага ўводу нацыянальнай валюты ў іншых рэспубліках, не распрацавалі сваю фінансавую стратэгію і тактыку на гэты выпадак. Запісалі ў план пункт аб стварэнні ўмоў для расшырэння экспартнай дзейнасці, а прыток валюты ў рэспубліку не расце, а зніжаецца.

(Заканчэнне на 3-й стар.).

## Яшчэ раз пра пажары

**ПА ТЭМПЕРАТУРНАМУ РЭЖЫМУ — ГЭТА НЕ САМАЕ ГАРАЧАЕ ЛЕТА,**
**лічыць начальнік сектара клімату Галоўгідрамета Галіна ВАЛАБУЕВА:**

— Такое лета сустракаецца раз у дзесяць гадоў. Па колькасці ападкаў яно — адно з найбольш засушлівых. У Мінску, напрыклад, за два месяцы — чэрвень і ліпень — выпала толькі 56 міліметраў ападкаў. У той час як па сярэдніх шматгадовых нормах іх за гэты перыяд звычайна бывае 170 мм. Вельмі блізкім па ўмовах надвор'я для цэнтральных і ўсходніх раёнаў Беларусі быў 1959 год. Тэмпература паветра тады была яшчэ вышэйшая, а ападкаў выпала за два месяцы (чэрвень і ліпень) усяго 65 мм. Самы цёплы гэты двухмесячны перыяд быў для Мінска ў 1936 годзе, калі сярэдняя тэмпература ў ліпені склала 21,7 градуса цяпла. У самы гарачы дзень у той год тэмпература паветра ўдзень узнімалася да 35 градусаў. За стагадовы ж перыяд вышэй яна не ўзнімалася.

Сёлета мы ўспрымаем лета як вельмі гарачае таму, што няма ападкаў. Але за апошнія гады цяплейшым было лета ў 1972 і 1988 гадах. Толькі тады ападкі былі ў норме і нават вышэй за норму, асабліва на захадзе рэспублікі — у Мінску за два месяцы ў 1972 годзе выпала 248 мм ападкаў. Людзі ўспрымалі такое надвор'е нармальна. Лета ў тыя гады прайшло для нас незаўважна, хоць і было цяплей нават, чым зараз, і пад Масквой тады гарэлі тарфянікі.

Зараз жа трэці ўжо месяц стаіць спякота. А 11 жніўня ў большасці месц рэспублікі была рэкордная за апошнія сто гадоў тэмпература — 35—37 градусаў цяпла. Дажджы, вядома, вельмі патрэбныя. Можа, яны зменшаць колькасць лясных пажараў.

**ГАРАЦЬ НЕ ТОЛЬКІ ЛЯСЫ,**
**гараць грошы, якія ідуць на іх тушэнне.**
**А вінаватыя ў гэтым, найперш, мы з вамі.**

Пажары ў лясах, выкліканыя неахайна кінутай іскрай і падхопленыя перагрэтай на сонцы травой і раслліннасцю, былі і ў іншыя гады. Сумная статыстыка іх сведчыць, што ў 1959 годзе ў нас згарэла 23.919 гектараў лясоў, у 1963-м — 11 тысяч, у красавіку 1984-га — 6.800 гектараў.

— Характэрная асаблівасць пажараў гэтага года,— зазна-

(Заканчэнне на 3-й стар.).

# Замежныя інвестары

## імкнуцца прысутнічаць на нашым рынку, але яны пакуль не хочуць рызыкаваць вялікімі грашыма. Чаму?

**На пытанні карэспандэнта «Звязды» адказвае старшыня Дзяржаўнага камітэта Рэспублікі Беларусь па знешніх эканамічных сувязях Уладзімір РАДКЕВІЧ.**

**— Беларусь не так даўно пачала выступаць у свеце ў ролі самастойнага эканамічнага суб'екта. Якія пазіцыі рэспублікі ў гэтай якасці на міжнароднай арэне?**

— За вельмі кароткі тэрмін дасягнута нямала. Рэспубліка прынята ў члены Міжнароднага валютнага фонду і Міжнароднага банка рэканструкцыі і развіцця, карыстаецца падтрымкай Сусветнага банка. Наладжаны сувязі з Камісіяй ЕС. Дарэчы, нацыянальным каардынатарам рэспублікі па сувязях з КЕС прызначаны намеснік Старшыні Саўміна М. Дзямчук.

З удзелам замежных экспертаў распрацавана праграма тэхнічнай дапамогі ў развіцці эканомікі Беларусі. У прыватнасці, праграмай прадугледжаны праекты рэканструкцыі двух нафтаперапрацоўчых заводаў у Мазыры і Наваполацку, вызначаны прыярытэтныя напрамкі дапамогі ў канверсіі заводаў «абаронкі», мадэрнізацыі такіх важных гаспадарчых галін, як энергетыка і транспарт.

**— Сёння наша рэспубліка, дарэчы, як і іншыя краіны СНД, мае вострую патрэбу ў інвестыцыях замежнага капіталу. Але ён пакуль не спяшаецца на прасцягі былога СССР па добра вядомых прычынах. Што зроблена і робіцца ў Беларусі, каб зацікавіць замежных інвестараў?**

— Не сакрэт, што стварыць рыначную эканоміку адкрытага тыпу, да якой мы імкнёмся, без інтэграцыі ў сусветную эканоміку вельмі і вельмі складана. Без замежнай дапамогі, капіталаў тэрміны неабходных пераўтварэнняў будуць зацягвацца. Дапамога патрэбна перш за ўсё для набыцця перадавой тэхналогіі і вытворчасці прадукцыі на ўзроўні сусветных стандартаў. І тут мы дакладна ўяўляем, што ва ўмовах вострай канкурэнцыі на сусветным рынку інвестыцый прыцягнуць інвестараў у Беларусь могуць толькі надзейныя прававыя асновы інвестыцыйнай дзейнасці, прывабныя эканамічныя ўмовы і стабільны палітычны клімат.

У Беларусі сёння замежныя інвестары маюць права набываць ва ўласнасць зямельныя ўчасткі, арандаваць маёмасць, зямлю і іншыя прыродныя рэсурсы, а таксама ўдзельнічаць у прыватызацыі аб'ектаў дзяржаўнай уласнасці.

Заўважу: уклады замежных інвестараў могуць уносіцца ў замежнай валюце ці ў рублях, атрыманых як у выніку абмену валюты ва ўстаноўленым заканадаўствам парадку, так і ад гаспадарчай дзейнасці на тэрыторыі Беларусі. Мінімальны ўклад замежнага інвестара ва ўстаўны фонд (устаўны капітал) вызначаны ў размеры 20.000 долараў ЗША. Замежная юрыдычная і фізічная асоба можа набываць права інвестара пры куплі акцый на суму не менш 20 працэнтаў устаўнога фонду прадпрыемства.

**— А як наконт ільгот замежным інвестарам?**

— Найбольш поўны комплекс ільгот атрымліваюць прадпрыемствы з замежнымі інвестыцыямі, ва ўстаўным фондзе якіх доля замежнага інвестара складае больш за 30 працэнтаў і ўся яго выручка ўтвараецца за кошт рэалізацыі паслуг і прадукцыі ўласнай вытворчасці. Яны вызваляюцца ад аплаты падатку на прыбытак на працягу трох гадоў з моманту аб'яўлення імі прыбытку, уключаючы першы прыбытковы год. Калі прадпрыемства з замежнымі інвестыцыямі вырабляе асабліва важную для рэспублікі прадукцыю, то Савет Міністраў можа зменшыць яшчэ на тэрмін да трох гадоў стаўкі падатку на прыбытак на 50 працэнтаў.

Замежныя інвестыцыі ў рэспубліцы не падлягаюць рэквізіцыі ці прымяненню мер, роўных ёй па выніках, за выключэннем стыхійных бедстваў, аварый, эпідэмій і іншых абставін, якія носяць надзвычайны характар.

**— А калі нейкі мясцовы Савет усё ж пойдзе на экспрапрыяцыю? Што тады?**

— У выпадку прыняцця органам дзяржаўнага кіравання ці мясцовым органам дзяржаўнай улады акта, які супярэчыць закону ці парушае правы інвестара, страты, нанесеныя ў выніку прыняцця гэтага акта, па рашэнню суда ў адпаведнасці з яго кампетэнцыяй, кампенсуюцца органам, які прыняў гэты незаконны акт. Сума кампенсацыі вызначаецца ў размеры фактычных страт і вяртаецца інвестару на працягу трох месяцаў у той валюце, у якой першапачаткова былі ўнесены інвестыцыі.

Замежным інвестарам гарантуецца беспераШкодны перавод за мяжу той сумы ў замежнай валюце, якую яны зарабілі.

**— Апошнім часам шмат высокапастаўленых прадстаўнікоў Беларусі ваяжыруюць на чале розных дэлегацый па ўсёй планеце. Заключаюць нейкія пагадненні, аб нечым дамаўляюцца, падпісваюць нейкія кантракты. Ствараецца ўражанне кіпучай дзейнасці, але яе вынікі не бачныя на паліцах магазінаў. Адсюль вывад: незалежнасць рэспублікі дала магчымасць пэўнаму колу кіраўнікоў падарожнічаць за дзяржаўны кошт. Ці так гэта?**

— Зусім не так. Рэспубліка Беларусь як незалежная дзяржава — новая з'ява ў сусветнай палітыцы, і нам зразумела тая насцярожанасць, з якой заходнія палітыкі і бізнесмены падыходзяць да супрацоўніцтва з намі. Да апошняга часу гандлёва-эканамічныя адносіны Беларусі з развітымі краінамі мелі эпізадычны, нерэгулярны характар. Замежныя бізнесмены ведалі і працавалі толькі з Саюзам ССР, з Масквой, а цяпер прыходзіцца ім з намі наводзіць масты. Ужо заключана больш за дзесятак міжурадавых эканамічных пагадненняў.

Так, візіт урадавай дэлегацыі на чале са Старшынёй Савета Міністраў В. Кебічам у Італію і перагаворы, праведзеныя з урадавымі, дзелавымі і фінансавымі коламі, паказалі сур'ёзныя намеры італьянцаў супрацоўнічаць у мадэрнізацыі і развіцці гаспадарчага комплексу нашай рэспублікі на аснове доўгатэрміновых ільготных крэдытаў. Іх гатовы прадаставіць урад Італіі і прыватныя банкі.

У прыватнасці, вырашана, што ўрадавы крэдыт будзе накіраваны на закупку тэхналогій і абсталявання на вытворчасці ўсіх відаў дзіцячага харчавання (з мяса, малака, агародніны, садавіны), а таксама на вытворчасць упакоўкі для прадуктаў харчавання.

**— Зразумела, што эканамічны прарыў нельга здзейсніць без прыцягнення значных замежных крэдытаў. Нялёгка іх атрымаць, але яшчэ больш складана не праесці, не пусціць на латанне першачарговых бюджэтных дзірак, а з розумам выкарыстаць. Як тут ідуць справы?**

— Сродкі будуць накіраваны ў першую чаргу на структурную рэформу асноўных сектараў эканомікі, каб актывізаваць вытворчасць прадпрыемтваў, павысіць іх экспартны патэнцыял. Гэта машынабудаванне, хімія, нафтахімія, лёгкая прамысловасць, канверсія абаронных заводаў. У сельскай гаспадарцы гэта ў асноўным перапрацоўчыя галіны. Важная акалічнасць: прадастаўленне крэдытаў будзе весціся на конкурснай аснове.

**— Сумесныя прадпрыемствы сталі першай спробай укаранення замежнага капіталу ў нашу эканоміку, але надвор'я у гэтай справе яны пакуль не зрабілі. Дарэчы, колькі іх зараз? Якія іх перспектывы? Ці стануць яны сур'ёзнай з'явай у эканоміцы?**

— Спачатку лічбы. Калі на 1 верасня мінулага года было зарэгістравана тры тысячы ўдзельнікаў знешнеэканамічнай дзейнасці, то сёння іх ужо шэсць тысяч. У канцы 1990 года ў рэспубліцы было ўсяго 54 СП, зараз каля 500. Яны створаны з фірмамі 33 краін. Росту колькасці СП спрыяў і пераход іх рэгістрацыі ў кампетэнцыю рэспублікі.

Дынаміка стварэння СП, на першы погляд, добрая. За 1991 год іх з'явілася у 3,6 раза больш, чым за ўвесь мінулы перыяд. Але калі возьмем сумарны аб'яўлены фонд, то рост СП ужо не здаецца нам вельмі значным — толькі ў 1,87 раза.

Прычына, на наш погляд, у нестабільнасці эканамічнай сітуацыі і цяжкасці прагназіравання рэформ. Замежныя інвестары хочуць прысутнічаць на нашым рынку, але не хочуць рызыкаваць вялікімі грашыма.

Назіраецца тэндэнцыя да змяншэння ўкладаў ва ўстаўныя фонды СП. Так, сярэдні аб'ём замежных інвестыцый зменшыўся за год больш чым на 28 працэнтаў. Адной з прычын з'яўляецца недастатковая гібкасць заканадаўства, якое рэгулюе знешнія эканамічныя сувязі. З яго выпала важнае звяно — вытворчая і навукова-тэхнічная кааперацыя. Намі прапанаваны праекты нарматыўных дакументаў, якія прадугледжваюць ліквідацыю гэтага недахопу. Напрыклад, спрошчаную ў адносінах да СП працэдуру ўстанаўлення супрацоўніцтва і некаторыя льготы. Мяркуецца ўстанавіць безліцэнзійны і бяспошлінны ўвоз-вываз каапераруемай прадукцыі, а таксама ўплату экспартна-імпартных падаткаў не з кожнай здзелкі, а перыядычна ці пасля заканчэння тэрміну дагавора аб кааперацыі. Прыняцце гэтых дакументаў дазволіць зменшыць колькасць дробных СП, якія ствараюцца толькі намінальна.

Відавочна імкненне некаторых гаспадарчых структур пазбегнуць падатку на прыбытак за кошт атрымання статуса СП. Аднак у перспектыве гэта праблема павінна знайсці сваё вырашэнне, таму што дзеючае падатковае заканадаўства не прадугледжвае для СП якіх-небудзь ільгот, калі яны займаюцца пасрэдніцкай дзейнасцю. А мінімальныя размеры ўстаўнога фонду не дазволяць многім СП развіваць вытворчасць у неабходных размерах, і яны спыняць сваё існаванне.

Геаграфія замежных інвестараў дастаткова шырокая. Лідэрам па стварэнню СП у Беларусі з'яўляецца Польшча (110), затым ідуць ФРГ (35) і ЗША (24).

**— Адна з прычын слабага прытоку замежнага капіталу — дрэнная інфармаванасць бізнесменаў аб Беларусі ўвогуле і яе эканамічным патэнцыяле ў прыватнасці. Якім чынам можна хутчэй пераадолець гэты бар'ер?**

— Так, я з вамі згодны. Каб супрацоўніцтва з замежнымі фірмамі было плённым, нам неабходна выпрацаваць сістэму ўзаемнага інфармавання аб эканамічных магчымасцях і патрэбнасцях, патэнцыяльных партнёрах, заканадаўчых і іншых нарматыўных актах, якія рэгулююць знешнеэканамічную дзейнасць. У гэтым напрамку намі ўжо зроблены першы крок: Гандлёва-прамысловай палатай рэспублікі выдадзены на англійскай мове каталог прадпрыемстваў, зарэгістраваных у якасці ўдзельнікаў знешніх сувязей, і зборнік, які ўтрымлівае заканадаўчыя асновы знешнеэканамічнай дзейнасці ў Рэспубліцы Беларусь. Камітэтам выдадзены даведнік «Беларусь, бізнес-гід».

З нашым удзелам арганізавана выданне газеты «Беларускі рынак», часопісаў «Дело (Усход—Захад)», «Свободная экономика».

Рэгулярна праводзяцца міжнародныя канферэнцыі. Напрыклад, нядаўна прайшла другая канферэнцыя «Бізнес-92», якая была прысвечана праблемам прамых замежных інвестыцый, абмену эканамічнай інфармацыяй. У час яе правядзення адбылося каля 160 перагавораў патэнцыяльных партнёраў. Пры камітэце створана камерцыйная інфармацыйна-маркецінгавая фірма «Інформа». Мы імкнёмся выкарыстоўваць кожную магчымасць, каб як мага больш бізнесменаў у свеце ведалі пра Беларусь, праявілі цікавасць да эканамічнага супрацоўніцтва з ёю.

**Гутарыў Леанід ЛАХМАНЕНКА.**

## ЗАЙГРАЙ, ЖАЛЕЕЧКА, ЗАЙГРАЙ!

**Вялікая цікавасць людзей да музычнай і песеннай спадчыны нашага краю. Усё новыя і новыя фальклорныя калектывы вяртаюць нам забытыя мелодыі. Але для гэтага патрэбны і народныя музычныя інструменты. Вось тут без таленавітых рук майстроў проста не абысціся.**

**Адзін з іх — жыхар горада Бяроза Брэсцкай вобласці Якаў Іванавіч ШАЎЧУК. І скрыпку можа наладзіць, і дудку, і жалейку, і іншыя музычныя інструменты.**

**Яўген КАЗЮЛЯ. (БЕЛІНФАРМ).**

НАВІНЫ

## Хто звольніў рабочых мясных аддзелаў?

Непатрэбнымі сталі ў многіх магазінах Беларусі схемы разбірання жывёлы, якія дзесяцігоддзямі «ўпрыгожвалі» інтэр'еры мясных аддзелаў. Ялавічыну цяпер тут не сякуць. Але гаспадыні засталіся ў выйгрышы: выбар значна расшырыўся. На мясакамбінаце, адкуль прадукцыя ў ахалоджаным выглядзе паступае ў магазіны, мяса дзеляць на 14 сартоў. Прычым цана на яго вар'іруецца ад 16 да 93 рублёў за кілаграм.

— Тое, што мяса з розных частак тушы павінна каштаваць па-рознаму, мы і раней ведалі, — гаворыць намеснік начальніка ўпраўлення Мінсельгасхарча Беларусі Галіна Рухля. — Але існаваўшая ўраўнілаўка прымушала прадаваць 81 працэнт прадукцыі па адной стабільнай цане. Пры гэтым камусьці даставалася выразка, а камусьці — косці. Рынак, які паставіў перад намі праблему збыту, прымусіў укараніць больш лагічную і справядлівую схему. Для гэтага давялося скараціць рабочых мясных аддзелаў. Распрацавалі маршруты падвозу мяса. Не ўсе праблемы пакуль што вырашаны: для транспарціроўкі ахалоджанай прадукцыі не хапае машын з ізатэрмічнымі фургонамі, даволі-такі знасілася і халадзільнае абсталяванне ў магазінах. Але мы не маем намеру адступаць, а, наадварот, будзем рабіць асартымент больш разнастайным.

Па новай тэхналогіі, якая набліжаецца да еўрапейскіх стандартаў гандлю мясам, акрамя Мінска, пачалі працаваць у Віцебску, Гродна і Слуцку. Вопыт будзе пашыраны на ўсе буйныя гарады Беларусі.

**Наталля НЕВІДОМАЯ, кар. БЕЛІНФАРМа.**

# ЯК СТАЦЬ БАГАТЫМ

**Паводле даных сацыялагічнага апытання, больш за 40 працэнтаў насельніцтва Беларусі плануюць паправіць сваё матэрыяльнае становішча, якое апошнім часам значна пагоршылася, шляхам пошуку дадатковага заробку. Але шмат хто з гэтых людзей яшчэ не вырашыў, да чаго прыкласці свае сілы. Менавіта ім мы і прапануем сёння гэты матэрыял. Спадзяёмся, што гэтыя парады дадуць магчымасць усім жадаючым пазбегнуць галечы і жабрацтва, прывядуць да заможнасці і дастатку.**

### СПОСАБ ПЕРШЫ
### Як зарабіць з дапамогай тэлефона

Любая камерцыйная дзейнасць не будзе мець і палову поспеху, калі няма тэлефона і інфармацыя не будзе імгненна прадастаўляцца заказчыку. Але шмат прыватных фірм, якія зараз ствараюцца, не маюць тэлефоннай сувязі, альбо іх уласнік частку дня знаходзіцца на сваёй асноўнай рабоце і не можа аператыўна звязвацца з кліентамі. У гэтым і заключаецца магчымасць вашага заробку.

Гэта справа больш за ўсіх падыдзе хатнім гаспадыням, пенсіянерам, жанчынам у дэкрэтным адпачынку. Магчымасць заробку заснавана на выкарыстанні вашага хатняга тэлефона. Адзіным патрабаваннем з'яўляецца тое, што вы павінны ўвесь рабочы дзень знаходзіцца дома.

**Расклад дзеянняў прыкладна такі:**

1. Вы павінны дакладна прадумаць, як падзяліць свой час, каб з 10 да 17 гадзін (з перапынкам) вас нішто не турбавала.

2. Неабходна даць аб'яву ў газету аб тым, што вы прапануеце свае паслугі ў якасці тэлефоннага дыспетчара.

3. Калі ў вас ёсць пішучая машынка і вы валодаеце машынапісам, то можаце прапанаваць дадатковыя паслугі па перадруку невялікіх работ. Такім чынам, гэты занятак становіцца падобным на працу сакратара, толькі дома.

4. Вызначце ўмовы ўзаемавыгаднага супрацоўніцтва з заказчыкам, г. зн. кола пытанняў, па якіх вы будзеце прадстаўляць фірму; памер вашага заробку (у залежнасці ад колькасці тэлефонных званкоў альбо цвёрдая стаўка).

Вы павінны азнаёміцца з дзейнасцю той фірмы, якую будзеце прадстаўляць. Раім вам абслугоўваць некалькі (5—10, не больш) фірм адначасова. Прапануем вам таксама прыкладны разлік вашага заробку. Вы можаце дамовіцца аб цвёрдай стаўцы 250—300 руб. у месяц плюс дадатковая аплата за кожны тэлефонны званок увечары ці ноччу. Асобна трэба дамовіцца аб магчымасці міжгародніх званкоў з аплатай па квітанцыі.

Падлічыце магчымы заробак і пачынайце.

### СПОСАБ ДРУГІ
### Хатняя гасцініца ля дарогі

Як відаць з самой назвы, вы павінны жыць ля ажыўленай аўтастрады альбо побач з ёю і мець уласны дом. Гэты спосаб найперш падыходзіць жыхарам вёсак, раённых цэнтраў і ускраін вялікіх гарадоў. Усім добра вядома, што вадзіцелям і людзям, якія падарожнічаюць на машынах, практычна немагчыма знайсці месца для начлегу. Менавіта на гэтым і заснаваны гэты спосаб заробку.

Спачатку неабходна знайсці памяшканне для начлегу, прадумаць, колькі чалавек яно можа ўмясціць, колькі патрэбна бялізны, як зрабіць спальныя месцы, калі не хапае ложкаў. Раім абмежавацца 5 месцамі (з разліку на пасажыраў легкавой машыны). Можна прапаноўваць за дадатковую аплату лёгкае снеданне альбо вячэру, а таксама садавіну, гародніну і інш. тавары мясцовай вытворчасці.

У гэтым выпадку патрэбны і асобы падыход да рэкламы. Аб'ява ў газеце зусім не прыдатная. Неабходна на трасе ўстанавіць дзве рэкламныя шыльдачкі (так робіцца ва ўсім свеце) у двух накірунках руху за 100—500 м да гасцініцы, на якіх трэба напісаць, напрыклад, так:

«Хатняя гасцініца на 5 чалавек».

Трэба ўстанавіць такую ж шыльду на сваіх варотах, якія выходзяць на дарогу.

Плату за адну ноч вы можаце ўстанаўліваць да 100 руб. за чалавека. Гэта павінна залежаць ад якасці вашых паслуг.

Прыбытак будзе стабільным, калі вы будзеце прытрымлівацца наступных правілаў:

1. Заўсёды быць ветлівым у адносінах да кліентаў.

2. Падтрымліваць ідэальную чысціню і парадак.

3. Кожнаму кліенту пакідайце свае візіткі.

### СПОСАБ ТРЭЦІ
### Хатняе кафэ ля дарогі

Паесці ў дарозе — вельмі вялікая праблема для вадзіцеляў і пасажыраў. Калі ваш дом знаходзіцца каля дарогі з інтэнсіўным рухам: у вёсцы, райцэнтры альбо на ўскрайку горада, у вас ёсць выдатная магчымасць стварыць сваё прыватнае кафэ, якое будзе прыносіць вам значны прыбытак.

**Прадумайце ўсе ўмовы, якія неабходны для існавання кафэ:**

1. Вы альбо нехта з членаў вашай сям'і павінен добра гатаваць ежу.

2. У вас не павінна быць недахвату неабходных прадуктаў.

3. Да вашага дома павінен быць добры пад'езд і месца для кароткачасовай стаянкі.

Лепш за ўсё разабраць частку плота і абсталяваць прылавак з навесам, але так, каб яго можна было зачыняць нанач. Каля прылаўка могуць знаходзіцца лаўкі і столікі.

4. Вы павінны прадумаць сваё меню. Гэта могуць быць разнастайныя бутэрброды, сасіскі, каўбасы, сокі і кампоты. Але вы можаце прапанаваць і сапраўдны абед.

І ўвогуле, чым вышэйшай будзе якасць сервісу, тым большымі могуць быць цэны. Раім вам устанавіць наступныя расцэнкі: вышэй за дзяржаўныя, але ніжэй, чым кааператыўныя. Людзям будзе падабацца менавіта тое, што ежа — хатняя, і па боскіх цэнах. Для таго, каб падлічыць свае расцэнкі, вы павінны пачаць з падліку затрат на прыгатаванне ежы і ўтрыманне кафэ: цэны павінны быць на 30—50 працэнтаў вышэй затрат.

Пачынаючы гэтую справу, устанавіце рэкламныя шыльды, якія будуць добра бачны з дарогі.

### СПОСАБ ЧАЦВЁРТЫ
### Прыватны склад

Шмат кааператываў, малых прадпрыемстваў існуюць у маленькіх, непрыстасаваных памяшканнях альбо ўвогуле не маюць нават гэтага. Знайсці і ўзяць памяшканне ў арэнду — вялікая праблема. Тым больш вельмі цяжка знайсці памяшканне пад склад, на непрацяглы час. На гэтым і заснаваны прапануемы варыянт заробку. Яго выкананне магчыма толькі пры наступных умовах:

1. Вы можаце выдзеліць пад міні-склад вялікую кладоўку, частку пакоя альбо яшчэ нейкае памяшканне ў кватэры ці ў доме (падвал, гарышча, гараж і г. д.).

2. Гэтае памяшканне павінна быць абсталявана сігналізацыяй, а таксама іншымі сродкамі аховы ад злачынцаў (сабака, надзейныя запоры, дзверы, замкі, краты на вокнах і г. д.). Вы павінны гарантаваць захаванне маёмасці, у чым кліент павінен пераканацца сам. Прымаць на захаванне можна самую розную маёмасць: партыі тавараў, камп'ютэр, рэчы ў чамаданах, на ўчастку — аўтамабіль пад час адпачынку, цэглу і г. д.

Памятайце: залог вашага поспеху — ветлівасць, сумленнасць і гарантыя бяспекі для кліентаў і іх рэчаў.

### СПОСАБ ПЯТЫ
### Служба забеспячэння «Вёска — горад»

Людзі, добра знаёмыя з жыццём вёскі, ведаюць, што адна з вялікіх праблем — здаць вырашчаную сельскагаспадарчую прадукцыю. Калі вёска далёка ад горада і ехаць на базар цяжка, то застаецца толькі спадзявацца на прыёмшчыка з нарыхтоўчай канторы: прыме — не прыме? Альбо на выпадак, калі хтосьці пад'едзе на машыне і набудзе 2—3 мяхі бульбы.

Калісьці сяляне аб'ядноўваліся ў кааператывы, якія збывалі прадукцыю па выгадных цэнах. Сёння можна арганізаваць такога роду сервіс у рамках індывідуальнай працоўнай дзейнасці.

Чалавек, які хоча заняцца гэтай дзейнасцю, павінен добра ведаць магчымасці кожнай сям'і ў вёсцы і, самае галоўнае, колькі прадукцыі яны змогуць вырасціць і захаваць да вясны. Добра ўсё прадумаўшы і дамовіўшыся з людзьмі, неабходна прыступаць да наступнага этапу: знайсці ў горадзе спажыўцоў. Гэта могуць быць гандлёва-закупачныя кааператывы, рэстараны, кафэ, любыя прадпрыемствы, якія хочуць набываць прадукты для сваіх рабочых. Вы можаце прапанаваць два варыянты: вываз транспартам пакупніка сельгаспрадуктаў у вялікай колькасці восенню або пастаўкі раз ў 1—2 тыдні зімой. Апошняе больш выгадна, бо цэны зімой значна вышэйшыя. Старайцеся, каб адной з галоўных умоў, прад'яўленых да заказчыка, было забеспячэнне транспартам. Але можаце ўзяць гэтае пытанне і на сябе, хаця гэта і вялікі клопат.

Для яснасці прывядзём прыклад: раз на тыдзень у вёску прыязджае грузавік ад арганізацыі і забірае пэўную колькасць прадуктаў. Цэны і колькасць агавораны раней, якасць гарантавана. У вёсцы вы дапамагаеце ўзважваць і ўлічваць прадукцыю. З пастаянным партнёрам можна наладзіць круглагадовыя пастаўкі, а таксама прапаноўваць кансерваваныя і салёныя прадукты (агуркі, памідоры, капусту).

Але не трэба засяроджвацца толькі на гэтым. Прапануем вам прадумаць, як арганізаваць забеспячэнне вёскі прамысловымі таварамі ў якасці аплаты за сельгаспрадукцыю.

Ваш заробак як арганізатара будзе складаць каля 3—10 працэнтаў ад агульнай сумы, якую вы будзеце атрымліваць ад пакупніка прадукцыі. Велічыня працэнтаў залежыць ад колькасці і якасці прадуктаў. Астатнюю суму, згодна з уліковымі запісамі, вы заплаціце вяскоўцам.

Яшчэ раз прадумайце ўвесь «ланцужок» паміж вёскай і горадам. Толькі пасля гэтага пачынайце дзейнічаць, і пачынайце з аб'явы ў гарадской газеце:

«Штотыднёвыя пастаўкі высакаякаснай сельгаспрадукцыі любымі партыямі самавывазам. Цэны ніжэй за рыначныя. Разглядаюцца сустрэчныя прапановы тавараў. Звяртайцеся—тэл./адрас».

Калі вы сапраўды будзеце прапаноўваць тавар па якасці не горшы, чым на базары, але па ніжэйшых цэнах, то вы атрымаеце добры прыбытак і сапраўдную асалоду ад сваёй працы.

І ў заключэнне яшчэ некалькі парад. Перш за ўсё, калі вы вырашылі заняцца бізнесам, трэба параіцца з кваліфікаваным юрыстам, каб пазбегнуць непрыемнасцей пад час працы. Абавязкова трэба зарэгістравацца ў мясцовых органах улады, а потым ужо прымацца за справу. І калі ў вас хопіць настойлівасці і жадання працаваць, то заможнасць хутка прыйдзе ў ваш дом. Прыведзеныя спосабы могуць выклікаць у кагосьці ўсмешку, але трэба памятаць, што такія гіганты, як «Таёта», «Соні», «Макдональдс», пачыналіся менавіта з такіх дробных прадпрыемстваў і кафэ. Хацелася б, каб і ўсе тыя, хто прачытаў гэтыя парады і вырашыў сур'ёзна заняцца бізнесам, зрабілі б такую ж кар'еру.

**Поспехаў вам!**

**Юрась ДРАЗДОЎ.**

ГОРАД І ЧАЛАВЕК

# Эпоха неасферы: мы яе творцы ці бязвольныя сузіральнікі?

**У Маскве створана Міжнародная акадэмія гуманітарнай урбаністыкі, у ліку заснавальнікаў якой—беларускія вучоныя. Аглядальнік «Звязды» сустрэўся з яе прэзідэнтам, доктарам філасофскіх навук В. ПІВАВАРАВЫМ.**

**— Віктар Рыгоравіч, якая «звышзадача» новай акадэміі?**

— Павышэнне якасці жыцця. Чалавецтва ўсё больш канцэнтруецца ў гарадах, не вельмі клапоцячыся пра камфортнасць. Каб найлепшым чынам увасобіць ідэю «Горад для чалавека, а не чалавек для горада», мы выкарыстоўваем фундаментальную навуку. Патрэбна ў корані змяніць адносіны да «гома сапіенс» у гарадскім асяроддзі, забяспечыць яго сацыяльную і экалагічную абароненасць, паклапаціцца аб трансляцыі культуры з пакалення ў пакаленне. З гэтай мэтай аб'яднаві намаганні ВНУ, навукова-даследчых інстытутаў, вядомых вучоных, дзеячаў культуры, архітэктараў. А яшчэ — рэлігійных арганізацый і нават прадпрымальнікаў.

**— Я так зразумеў, што Міжнародная акадэмія створана на базе маскоўскага творча-вытворчага прадпрыемства «ГІУС» — гуманітарных ідэй урбанізацыі і самакіравання горада, якое вы таксама ўзначальваеце?**

— Правільней будзе сказаць, што «ГІУС» стаў адным з ініцыятараў стварэння вышэйшай навукова-вучэбнай установы. І пакуль што яе асноўнай вытворчай базай. Прадпрыемства мае вопыт вывучэння гарадскога асяроддзя, экспертызы праектаў будаўніцтва, удзелу ў стварэнні інстытутаў самакіравання, мадэліравання сацыяльных працэсаў. Нас актыўна падтрымалі ў краінах СНД, а таксама ў Японіі, Швецыі, Індыі. Вельмі важна, што ў Японіі, якая даўно імкнецца зрабіць прарыў у гэтым напрамку і ўжо сёння мае што паказаць. У Беларусі вялікую цікавасць выказаў дырэктар інстытута сацыялогіі член-карэспандэнт АН Я. Бабосаў. Многія распрацоўкі мінчан прысвечаны чалавеку, і вопыт інстытута будзе карысным у міжнародным маштабе. Ідэя гуманізацыі горадабудавання, якую мы прапаведуем, павінна абапірацца на комплексныя даследаванні, што забяспечыць навуковае абгрунтаванне прымаемых рашэнняў.

**— Калі ласка, крыху больш падрабязна пра саму ідэю гуманізацыі горадабудавання.**

— Пачнём з адваротнага. Ва ўсіх на памяці «хрушчобы», якія, канешне, у свой час дапамаглі зняць вастрыню жыллёвай праблемы, але ператварылі гарады ў пчаліныя соты. Сёння ў абліччы нашых мегаполісаў таксама шмат ад тых «сотаў»: перазаселенасць, цеснота вуліц, «душыць» транспарт, складана знайсці месца для простых чалавечых кантактаў. Адным словам, гарады для камфортнага жыцця прыстасаваны мала. Усё неяк рабілася спешна, на хапок. І калі не спыніцца, не змяніць горадабудаўнічую палітыку, мы так і застанёмся заложнікамі асфальтавага катка. Дайшло да таго, што людзі ўжо самі, шукаючы нейкага паратунку, спрабуюць стварыць хоць бы маленькі аазіс сярод гарадской пустыні на даху шматпавярховага дома — носяць у мяшках зямлю, садзяць дрэўцы... Памятаеце нядаўнюю публікацыю ў «Комсомольской правде» з Ерэвана? У Мінску таксама калісьці разводзілі сады на дахах высотных прыгажуноў-дамоў на праспекце Скарыны, але па задуме архітэктараў, і там не было стыхійнасці. Гэта значыць, усё было пралічана і прыгожа. Шкада толькі, што дазволілі тыя сады зруйнаваць.

Карацей, пытанне стаіць не проста аб граматнай забудове, а аб усебаковым развіцці тэрыторый. (Раней мы гаварылі аб усебаковым развіцці асобы, зараз — тэрыторый. Першае немагчыма без другога.) Патрэбны новыя, больш камфортныя серыі дамоў, у тым ліку малапавярховых і катэджнага тыпу. Арганізацыя гарадской прасторы павінна весціся з улікам дасягненняў архітэктурнай і навуковай думкі, а таксама прапаноў саміх жыхароў. Аб'ектаў сацкультбыту ў кожным мікраёне патрэбна столькі, колькі патрэбна, — не больш і не менш. Каб людзі не тоўпіліся ў чэргах у магазін, майстэрню, кінатэатр, паліклініку.

**— Прабачце, Віктар Рыгоравіч, але ўсё гэта ўжо абвяшчалася...**

— Вы хочаце запытаць, што ў нашай ідэі новага? Новага шмат. Напрыклад, зараз не на словах, а на справе ў грамадстве ажыццяўляецца свабода сумлення. Людзі не хаваюць сваёй веры ў Бога, ідуць да яго ў храм, і мы не маглі не ўлічыць гэтага. Культавая і някультавая дзейнасць рэлігійных арганізацый уключаецца ў агульную горадабудаўнічую канцэпцыю як яе паўнапраўны элемент. Для краін СНД яшчэ якая навіна. Мы лічым, што адраджэнне дзейнасці традыцыйных для таго ці іншага рэгіёна канфесій ужо ў бліжэйшай перспектыве павінна рабіцца ў асноўным за кошт рэабілітацыі існуючых культавых аб'ектаў. Тым больш, што зараз актыўна ідзе працэс іх вяртання вернікам.

**— Сёння на прэс-канферэнцыі для журналістаў краін СНД, якую вы правялі, шмат пытанняў паступіла па парку чалавечых камунікацый. Што гэта?**

— Ва ўсякім разе не проста парк культуры і адпачынку. Перш за ўсё гэта буйны інфармацыйны комплекс, які працуе з шырокім выкарыстаннем тэлевізійнай, кіна-і відэаапаратуры. Дадайце сюды цэнтры існуючых палітычных і іншых грамадскіх рухаў (тых жа «зялёных»), партый і арганізацый. Тут і бізнес-цэнтр, дакладней, месца для «клубных» зносін бізнесменаў, школы рамёстваў і г. д. Ідэю парку чалавечых камунікацый мы запазычылі — такія сістэмы ёсць у той жа Японіі, Англіі, некаторых іншых краінах. Цяпер дапрацоўваем яе ў прывязцы да нашых умоў (прыкладна аднолькавых у краінах СНД). Зараз выбіраем месца для рэалізацыі першага вопыту.

**— Вы шчыра верыце, што такую махіну, як Масква ці нават Мінск, можна хутка «павярнуць тварам» да чалавека? Гуманізаваць гарадское асяроддзе за некалькі гадоў?**

— Хутка ці не, але можна і патрэбна. Пры гэтым давайце не скідваць з рахунку тое, што ўжо сёння ёсць. Мы ж не будзем пачынаць на пустым месцы. Хаця, канешне, найбольшы і найхутчэйшы эфект можа даць сучасная, граматная забудова новых тэрыторый. Мы ўскладаем вялікія надзеі на асваенне прыгарадных зон вакол буйных прамысловых цэнтраў. Апытанні паказваюць, што многія гараджане хацелі б пераехаць у прыгарад, калі жыццё ў ім будзе наладжана цывілізавана. Мы абараняем ідэю кампактнага горада з нізкай шчыльнасцю насельніцтва і развітой інфраструктурай, экалагічна чыстага, камфортнага, у якім сфера працы сумешчана са сферай адпачынку. Гэты прынцып можа быць выкарыстаны і ў гарадскіх мікраёнах.

**— Асноўны палігон для практычнай праверкі вашых напрацовак — Масква і блізкае Падмаскоўе?**

— А яшчэ Ніжні Ноўгарад, Астрахань, Архангельск, Волагда. Будзем вельмі рады, калі нас падтрымаюць таксама беларускія калегі, і межы гэтага палігона пашырацца. Развіваючы фундаментальную навуку па ўсіх напрамках гуманізацыі горадабудаўніцтва, мы плануем выкарыстоўваць і беларускі вопыт. У свой час вашу сталіцу хвалілі за досыць прадуманае прамысловае будаўніцтва.

Акрамя таго, будзем займацца падрыхтоўкай кадраў спецыялістаў, фарміраваць навуковыя фонды і банкі даных горадабудаўнічай інфармацыі, і тут без цесных кантактаў з краінамі СНД, далёкага замежжа проста не абысціся. Таму акадэмія — міжнародная.

Акадэмія таксама гатова правесці экспертызу гуманітарных характарыстык аб'ектаў гарадскога асяроддзя, сацыялагічнае вывучэнне запытанняў суб'ектаў горадабудаўнічай палітыкі, дапамагчы вызначыць перспектыву. Так што звяртайцеся. Як я ўжо казаў, у Беларусі нашы інтарэсы прадстаўляе Яўген Міхайлавіч Бабосаў, дырэктар інстытута сацыялогіі. Яго тэлефон 39-48-65. У Маскву можна тэлефанаваць па нумары 209-66-64, а пісаць на адрас: 125047 Масква, 2-я Брэсцкая вуліца, дом 2/14, пакой 105.

**Уладзімір ХІЛЬКЕВІЧ.**

